*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К. Каліноўскі*

ISSN- 5172

**ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!**



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Бышых Беларускіх Вайскоўцаў

**ZVAZAJ – Veterans quarterly, published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans. Canada Post: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2**

***U. S. Post: Assn of Byelorussian-American Veterans, 9 River Rd., Highland Park, N. J. 08904***

Год 11 | Чырвень, 1985 | № 2(38)

## ПРЫЗНАЙЦЕСЯ, ВАРВАРЫ, КАЛІ Й НАВОШТА ЗЬНІШЧЫЛІ СЬВЯТЫНЮ!

Дрэнна пачынаць артыкул з лаянкі, ці навет лаянкай нашпікаваць загаловак. Але прашу прабачэньня чытачоў, якім раю, – няхай сабе, – аднесьці гэта на конта маей чалавечай слабасьці. Зь іншага боку, як назваць людзей (яны-ж, бяз сумлеву, маюць чалавечыя абліччы), калі ня варварамі?

Кагадзе перачытваў атрыманы першы том "Энцыклятэдыі Літаратуры і Мастацтва Беларусі", выд. 1984 г. у Менску. На бачыне 426 сустрэў здымак фасаду й кароткую зацемку пра знаёмую мне зь дзяцінства сьвятыню ў Беразьвеччы (гл. адбітак побач).

Даведаўся, што існавала яна да паловы XX-га стагодзьдзя. Апошняе, ляканічнае: "не зьберaглася", кальнула ў жывое. Я бачыў яе апошні раз, зводдаль недзе ў 1944-м годзе. Ведаю, што ўцалела ў вайне. Значыцца, згодна вышэйзгаданай энцыкляпэдыі, варвары зьнішчылі яе між 1944-м і 1950-м гадамі.

У памяці падлётка на ўсё жыцьцё ўтрываліўся вобраз. Як нельга ярка, пасьля доўгіх вандраваньняў па сьвеце, жыве ён у маім уяўленьні й сяньня. У Глыбокае ўяжджалі мы звычайна з паўднёвага боку й калі пяшчаны бальшак гужом спускаўся ў даліну, перад намі адкрывалася шырокая панарама гораду, а гэт! – кілямэтры за тры воддаль, – на канцы Беразьвецкага возера, прыгожая як цаца, быццам памытая раньняй чыстай расой, велічна зьзяла барокавая сьвятыня. Некалі казаў мне бацька, што даўным-даўно была гэта уніяцкая царква, а падчас польскае акупацыі, між войнаў, стаялі там нейкія "ўланы", а сьвятыня была гарнізонным касьцёлам. Некалі айцы Базыльяне пры сьвятыні пабудавалі манастыр, які быў захаваўся.

Падчас бальшавіцкае акупацыі ў 1939-41 гадох НКВД зрабіла ў манастыры вязьніцу й катоўню. Жахлівы вобраз раскрыўся пры нямецкай акупацыі падчас апошняй вайны. Тысячы ахвяр, якіх насьледнікі ката Дзяржынскага, у перапалоху перад наступам Немцаў, ня ўсьпелі выгнаць, – пamардаваных у розны спосаб, зваленых у ямы, – аглядалі ў нямым жаху вакольныя жыхары. Пра жахлівы вобраз памучаных і злачынствы НКВД у Беразьвеччы сваей простай сялянскай мовай апавядае (гл. "Гараватка", кніга 3, разьдзел 4) зь вялікім хваляваньнем дзядзька Захарук. Апавядальнік – ня выдуманая аўтарам, а рэальная асоба, а бальшавіцкі злачын – гістарычны факт.





**Беразвецкая царква. Галоўны фасад і план.**

**БЕРАЗВЕЦКАЯ ЦАРКВА.** Існавала ў 18 — 1-й пал. 20 ст. Пабудавана ў 1756—63 у в. Беразвечча (Глыбоцкі р-н) у стылі позняга барока. Уваходзіла ў комплекс манастыра базыльян. Мураваная 3-нефавая 2-вежавая базіліка з трансептам. Тарцы цэнтр. нефа і трансепта завяршаліся фігурнымі франтонамі. Фасады насычаны багатай дэкар. пластыкай з элементамі ракако.

Гал. фасад з 2 шмат'яруснымі вежамі быў аздоблены рустоўкай, пілястрамі, паўкалонамі, хвалістымі карнізамі, фігурнымі валютамі і праёмамі. Інтэр'ер вызначаўся прыгажосцю аздаблення. Алтар быў размаляваны фрэскавым жывапісам. Не зберaглася.

Навокал Беразьвечча раськінуліся пяскі й сасновыя лясы. Тая злашчасная сьвятыня сталася сьветкам масавага злачыну гітлераўскіх акупантаў. Пад адкрытым небам стварылі яны абоз савецкіх ваеннапалонных, ведамы лягер сьмерці. Пакліканыя абаранядь "імпэрыю зла", яны пайшлі ў палон, а пасьля мерлі тысячамі з голаду й холаду, гінулі пры ўцёках. Беларусы, як маглі, ратавалі ўцёкшых. Некаторым пасьля гэта даброць бокам вылезла, калі выратаваныя ў бальшавіцкія партызаны пайшлі.

Калі думаеш пра прыгажосьць і веліч Беразьвецкай сьвятыні ды пра тыя злачынствы, якія чалавек, падшыўшыся пад розныя "ідэалы", твaрыў у яе ваколіцы, дык хаця-нехаця мяркуеш аб мудрасьці Гасподняй...

# СЫМОН РАК-МІХАЙЛОЎСКІ

*(З нагоды сотых угодкаў нараджэньня)*



С.Рак-Міхайлоўскі. Соймавая здамка.

"Нацыянальны НЭП", "беларусізацыя", узбуйненьне БССР, "Мангольскі праект" і зьвязаныя зь імі падзеі палавіны 20-х гадоў не маглі не ўсхваляваць Беларусаў. Усе гэтыя мерапрыемствы знаходзілі пазытыўную рэакцыю ня толькі ў радох нацыянальнай інтэлігенцыі, але й між беларускіх масаў. Гэтыя падзеі, спрыяльныя для беларускага нацыянальнага разьвіцьця, знайшлі асабліва жывы водгук сярод насельніцтва Заходняе Беларусі.

Заходнябеларускія дзеячы й шырокі нацыянальны актыў беспасрэдна менш ведалі бальшавікоў і іхную тактыку ў нацыянальным пытаньні. Таму яны болей, чымся беларускія нацыянальныя сілы Ўсходняй, падсавецкай Беларусі, паверылі бальшавіком і захапіліся пэрспэктывамі "нацыянальнага НЭП'у" й "беларусізацыі". Яны задаволіліся праведзеным у пачатку 1924 году ўзбуйненьнем тэрыторыі БССР, хоць яны й разумелі, што гэтае ўзбуйненьне было толькі палавічным, бо-ж вялікая частка тэрыторыі нашага краю і далей заставалася ў складзе РСФСР.

Аднак гэтае палавічнае ўзбуйненьне БССР мела рэальныя пэрспэктывы хутка стацца поўным, як гэта выглядала паводля "Мангольскага праекту". Таму бальшыня беларускіх дзеячоў ахвотна ўлучылася ў арганізаваную бальшавікамі акцыю ў Заходняй Беларусі. Вынікам гэтага было заснаваньне ў Заходняй Беларусі ў 1925 годзе масавай палітычнай арганізацыі пад назовам "Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада".

Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада хутка разьвілася ў найбольшую беларускую арганізацыю Заходняй Беларусі. Грамада аб'яднала ў сваіх радох каля 120 тысяч сялянаў і работнікаў. Праграма Грамады была радыкальнай і нацыянальнай. Грамада была арганізацыяй зусім легальнай, яна ўзьнікла й працавала згодна з канстытуцыяй польскай дзяржавы. Кіравалі ёю беларускія дэпутаты ў польскі сойм, выбраныя беларускім народам у часе выбараў у Польшчы ў 1922 годзе. Гэта былі: прафэсар Браніслаў Тарашкевіч, Пётра Мятла, Павал Валошан, Фэлікс Галавач і Сымон Рак-Міхайлоўскі. Рак-Міхайлоўскі быў ня толькі адным з ініцыятараў стварэньня Грамады, але й намесьнікам старшыні ейнага Цантральнага Камітэту, аўтарам праекту ейнага арганізацыйнага статуту й сябрам рэдкалегіі ейных пэрыядычных выданьняў.

Біяграфічныя весткі пра Сымона Рак-Міхайлоўскага, як і пра большасьць беларускіх адраджэнцаў, даволі скупыя. Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя, у артыкуле прысьвечаным Рак-Міхайлоўскаму, у літаратуры пра яго падае толькі кароценькую нататку Арсеня Ліса пад назовам "Хто напісаў музыку 'Зоркі Вэнэры'?", якая была зьмешчаная ў №5 часапісу "Маладосьць" за 1964 год. Найбольш увагі Сымону Рак-Міхайлоўскаму і іншым кіраўніком Грамады прысьвяціла ведамая ў Польскай Народнай Рэспубліцы публіцыстка Аляксандра Бэргман. Ейны кароткі біяграфічны нарыс пра Рак-Міхайлоўскага, зь якога, дарэчы, мы зачэрпнулі асноўную нашу пра яго інфармацыю, быў зьмешчаны ў Беларускім Каляндары на 1980 год, што выдае Праўленьне Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў Беластоку.

Сымон Рак-Міхайлоўскі нарадзіўся ў 1885 годзе ў вёсцы Максімаўка, што каля Радашкавіч (тады Віленскай губэрні), у мнагадзетнай сялянскай сям'і. У 1904 годзе скончыў ведамую Маладэчанскую настаўніцкую сэмінарыю, якая выхавала таксама й такіх людзей, як пісьменьнік Міхась Чарот, дзеяч Грамады Пётра Мятла, пасол "Змаганьня" Флягонт Валынец і іншых. Пасьля заканчэньня сэмінарыі Рак-Міхайлоўскі настаўнічаў. Ён вучыў сялянскіх дзяцей на Беларусі. Вёў таксама асьветную працу між дарослых. "Адначасова, — кажа Аляксандра Бэргман, — запісваў народныя песьні, зьбіраў фальклёр".

************************************************

## ПРЫЗНАВАЙЦЕСЯ, ВАРВАРЫ...

*(Заканчэньне з бачыны 1-й)*

Гэтта дом Божы — створаная рукамі й інтэлектам натхнёных Богам будаўнікоў веліч, а гэтта побач — створанае злачынцамі пекла...

Што цяпер у тым манастыры, які раней быў вязьніцай? Ці там зноў НКВД/КГБ турму ўладзіла ды атрутай або фізычнымі зьдзекамі катуе лепшых сыноў і дачок паняволенай гаротнай зямлі?

Прызнавайцеся, варвары, навошта зьнішчылі сьвятыню! Расплаты дзень надыйдзе!

*К. Акула*

Пачатак грамадзка-палітычнай дзейнасьці Рак-Міхайлоўскага зьвязаны з рэвалюцыйнымі падзеямі 1905-1907 гадоў. Аднак веды, вынесеныя з маладэчанскай сэмінарыі, з часам перасталі яго задавальняць. Спрабаваў трапіць у вышэйшую навучальную ўстанову Пецярбурга, але не ўдалося. Тады ён паступіў у Пэдагагічны Інстытут у Феадосіі, што на Украіне, які і закончыў у 1912 годзе. Пасьля заканчэньня інстытуту ён настаўнічаў.

У 1914 г. мы сустракаем яго ўжо на Румынскім фронце. Рэвалюцыйныя падзеі 1917 году: зьнішчэньне царызму й лёзунгі пра самавызначэньне прыгнечаных народаў натхняюць Рак-Міхайлоўскага нябывалай энэргіяй. – "Усю яе, – адзначае Аляксандра Бэргман, – прысьвяціў ён арганізацыі салдатаў, склікаючы салдацкія зьезды і іншыя. Рак, як амаль ніхто іншы з нацыянальных беларускіх дзеячоў, разумеў значэньне арміі для стварэньня падставаў дзяржаўнасьці й таму з поўнай адданасьцяй пасьвяціў сябе справе стварэньня беларускіх вайсковых часьцяў".

Вярнуўшыся з фронту, Рак-Міхайлоўскі жыў у Менску. У той час ён аддаўся адной ідэі – нацыянальнай. Ён хацеў бачыць Беларусь вольнай, незалежнай, адзінай, а справа міру паміж Нямеччынай і Савецкай Расеяй вырашалася коштам падзелу Беларусі. Рак-Міхайлоўскі ўваходзіў у склад дэлегацыі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Берасьце, дзе ў лютым 1918 году вяліся перамовы паміж Нямеччынай і Савецкай Расеяй. "Уся дзейнасьць Рака таго часу, – гаворыць Аляксандра Бэргман, – як і ўсіх незалежнікаў, зьвязаная была з арганізацыяй беларускага кангрэсу ў Менску (Бэргман мае на ўвазе Першы Ўсебеларускі Кангрэс, што адбыўся ў канцы 1917 году і які быў разагнаны бальшавікамі – Я. Б.), з Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, сябрам якой быў Рак-Міхайлоўскі, зь Беларускай Цэнтральнай Вайсковай Радай, старшынём якое ён быў, а затым таксама зь Беларускай Вайсковай Камісіяй на тэрыторыі, акупаванай Польшчай. Адначасова Рак-Міхайлоўскі ўдзельнічаў у асьветніцкай дзейнасьці, будучы членам Цантральнай Школьнай Рады. Шмат часу прысьвячаў ён арганізаваньню дапамогі ахвярам вайны."

З кароткага біяграфічнага нарысу Аляксандры Бэргман, зьмешчанага ў Беларускім беластоцкім календары на 1980 год, даведваемся далей, што ў 1919-1921 гадох сям'я Рак-Міхайлоўскага жыла ў Горадні, дзе ён працягваў сваю незалежніцкую дзейнасьць, выдаваў "Беларускае Слова", выкладаў беларускім дзецям арытмэтыку. У 1920 годзе заснаваў у Барунах, што на Ашмяншчыне, першую ў Польшчы беларускую настаўніцкую сэмінарыю і быў таксама ейным кіраўніком. Затым, у 1921 годзе сустракаем яго ўжо ў Вільні, дзе ён адразу прыступіў да працы ў ведамай беларускай гімназіі і актыўна ўключыўся ў грамадзкую дзейнасьць. "Прайшло няшмат часу, – кажа аўтарка нарысу, – і ўжо мы бачым яго старшынём Беларускага Камітэту Дапамогі Ахвярам Вайны, актыўным членам Беларускага Нацыянальнага Камітэту, Беларускага Выдавецкага Таварыства, дзе паказаў сябе вопытным рэдактарам".

У 1922 годзе Рак-Міхайлоўскі быў выбраны ў Сойм паводля сьпіску №16 у 62-й выбарчай акрузе, якой была Ліда. З 22-га лістапада 1922 году пачынаецца ягоная пасольская дзейнасьць. Быў ён сябрам некалькіх соймавых камісіяў. Аднак пасольская дзейнасьць яго праходзіла галоўным чынам па-за Соймам: у вёсках, мястэчках, на сходах і зборках. Нямала часу праводзіў у Вільні, дзе Беларускі соймавы клюб меў сваё памешканьне і ў якім ён быў галоўным рухавіком тактыкі выкарыстоўваньня соймавага мандату ў першую чаргу для арганізаваньня шырокіх масаў, уважаючы, што дабіцца чаго-небудзь можна толькі сілай націску зьнізу. Таму яго бясспрэчна можна назваць адным з галоўных арганізатараў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Як адзначае Аляксандра Бэргман, "У кіраўніцтве Грамады ён трымаў у сваіх руках усе галоўныя арганізацыйныя лініі: ён арганізоўваў і яднаў Цантральны Сакратарыят Грамады і да прыходу Максіма Бурсэвіча быў яго кіраўніком; ён падбіраў інструктараў ЦК Грамады; на ім у значнай меры ляжала праца, зьвязаная з выдавецкай дзейнасьцяй Грамады: сам ён пісаў тэксты, займаўся рэдакцыйнай папраўкай, трымаў сувязь з друкарняй, сам вырашаў канфлікты з тупой польскай цэнзурай, на яго быў ускладзены таксама ўвесь фінансавы бок справы.

У часе разгрому Грамады, Рак-Міхайлоўскі быў арыштаваны й на працэсе 56-ці засуджаны на 12 гадоў турэмнага зьняволеньня. Ад моманту арышту ад грамадаўскіх дзеячоў патрабавалі, каб яны адракліся ад Грамады. У адказ Рак-Міхайлоўскі ў сваім 'апошнім слове' на працэсе ў Вільні ў 1928 годзе катэгарычна заявіў: "Я сваей працы не выракаюся, наадварот, ганаруся сваёй 20-гадовай працай: у вайсковых арганізацыях, у школьных, у палітычных. Ня было ніводнай галіны беларускай працы, беларускай адраджэнскай працы, дзе-б я ня прымаў самага актыўнага ўдзелу. Усёй сваёй працай, як і працай у Грамадзе, – працягваў Рак-Міхайлоўскі, – магу ганарыцца й магу гэтым пахваліцца. А Грамада раскалыхнула наш народ і гэта яе вялікая заслуга. Грамада пяройдзе ў гісторыю і гэта дае нам сілу цярпець няволю ў турме..."

У 1931 годзе, у выніку абмены палітычнымі вязьнямі, Сымон Рак-Міхайлоўскі пераехаў у БССР. У Менску ён быў дырэктарам Беларускага Дзяржаўнага Музэю. Жыў тут із сваёй сям'ёй. Але, як неўзабаве выявілася, за прапаганднай заслонай Масквы пра "самастойнасьць БССР" трымаўся д'ябальскі плян: Рак-Міхайлоўскага, як і шматлікіх іншых грамадаўцаў звабілі ў БССР, каб фізычна выгубіць. Чародная хваля арыштаў так званых "нацдэмаў" захапіла і іх. У палове 1933 году, калі Сымону Рак-Міхайлоўскаму было ўсяго 48 гадоў, ён быў паклёпніцка абвінавачаны, арыштаваны й высланы зь Беларусі. Яго, як і іншых беларускіх дзеячоў у Польшчы, абвінавачвалі ў нацыянал-дэмакратызьме, гэтак званай нацдэмаўскай дзейнасьці, а дакладней – у арганізацыі Цэнтру, які быццам дзейнічаў з мэтай, каб адарваць Беларусь ад СССР..

Адзін зьняволены савецкіх канцлягераў, Украінец Підгайны, у сваіх успамінах "Недастраляныя" апісвае сустрэчу зь беларускімі пасламі й іншымі вязьнямі-

*( Канец на бачыне 4-й)*

# БЕЛАРУСКІЯ ВАЙСКОВЫЯ ФАРМАЦЫІ Ў ЛЕТУВІСКАЙ АРМІІ

*Др. В. Сянькевіч*

27.XI.1918 г. (1) паміж Беларусамі й Летувісамі было асягнутае пагадненьне пра ўзаемныя дачыненьні, супрацоўніцтва й змаганьне за свабоду й незалежнасьць Летувы й Беларусі. На аснове гэтага дагавору, у Коўні, пры летувіскім урадзе, створанае было Міністэрства Беларускіх Справаў, на чале якога стаяў былы першы старшыня ўраду БНР Язэп Варонка, а пасьля Д. Сямашка. Для змаганьня за супольныя інтарэсы, пры летувіскай арміі былі створаныя беларускія вайсковыя адзьдзелы, для якіх выдаваўся беларускі часапіс.

Пагадненьне гэтае было адлюстраваньнем аднаго з эпізодаў у беларуска-летувіскіх суадносінах канца мінулага — першай паловы XX-га стагодзьдзя, эпізоду, які вызначаўся найбольшым, бадай, паразуменьнем і найцясьнейшым супрацоўніцтвам між гэтымі двума народамі ў сучасную эпоху. Апроч шматвяковага пэрыяду, калі Беларусы й Летувісы тварылі, баранілі й разам дружна жылі ў аднэй дзяржаве — Вялікім Княстве Літоўскім, іншыя эпізоды характарызаваліся калі не адкрытай варожасьцяй, дык прынамся абыякавасьцяй або, хутчэй за ўсё, ігнараваньнем Летувісамі Беларусаў.

Праўда, яшчэ ў мінулым стагодзьдзі, калі беларускі адраджэнскі рух быў адно ў зародку, а летувіскае нацыянальнае адраджэньне мела за сабою ўжо пэўны пройдзены шлях, летувіскія дзеячы ў часе супольнай маскоўскай няволі адносіліся даволі спагадліва да беларускага адраджэньня. Спачатку глядзелі на беларускае адраджэньне як на нярэальнае мерапрыемства, што ня мела пад сабой мацнейшага грунту (2). Яны бралі на ўвагу цяжкое становішча Беларусаў паміж двума славянскімі народамі, Расейцамі й Палякамі, што культурна й рэлігійна закараніліся ў нашым народзе, дзелячы яго на дзьве часткі; з прычыны вялікай блытаніны ў гістарычнай тэрміналёгіі і тэндэнцыйнай інтэрпрэтацыі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, якое ўважалі (і дагэтуль уважаюць) вылучна летувіскай дзяржавай, падкрэсьлівалі нястачу гістарычнай традыцыі, якая ў адраджэньні кажнага народу адыгрывае вялікую ролю; паказвалі на адсутнасьць інтэлігенцыі, і ў выніку глядзелі на беларускі рух зь вялікім пэсымізмам, ня лічачыся зь ім амаль зусім.

Сытуацыя аднак пачала мяняцца, калі беларускі адраджэнскі рух што раз глыбей запускаў сваё карэньне ў народныя беларускія масы, станавіўся што раз больш дынамічным. Сярод Летувісаў зьявілася боязьнь, што беларускі рух, набраўшы сілаў, можа заявіць пра свае правы на Вільню й Віленшчыну, на якія летувіскія дзеячы глядзелі як на зьбеларушчаную частку Летувы.

Ня гледзячы на гэта, яны ў сваей палітыцы прадаўжалі лічыцца толькі з расейскім, польскім і нямецкім фактарамі, пакідаючы беларускі фактар як нешта загадкавае і няпэўнае, што можа выклікаць цяжкасьць у летувіскіх палітычных плянах на будучыню (3).

Гэтак было да Лютаўскае рэвалюцыі 1917 году ў Расеі. У гэтым годзе рост беларускага нацыянальнага руху дасягае нябывалых вяршыняў. У сакавіку 1917 г. у Менску склікаецца зьезд беларускіх дзеячоў, на якім была выбраная дэлегацыя да расейскіх уладаў, каб прадставіць ім дамаганьні беларускага народу. Дэлегацыя гэтая ў першых днях красавіка 1917 году накіроўваецца ў Петраград, дзе, апрача кантактаў з расейскімі ўладамі, прапануе Летувіскаму камітэту, што існаваў тады ў сталіцы Расейскай імпэрыі, цеснае супрацоўніцтва. Адбываюцца дзьве канфэрэнцыі беларускай дэлегацыі з прадстаўнікамі летувіскага камітэту: адна інфармацыйная, а другая пастанаўляючая. У часе першай сустрэчы Беларусы высунулі прапанову супольнай працы на палітычным грунце з далейшай мэтай адбудовы Вялікага Княства Літоўскага (4). Як матывы супрацоўніцтва Беларусы выстаўлялі: 1) слаўную супольную гістарычную мінуўшчыну; 2) супольнасьць палітычных і сацыяльных інтарэсаў, прычым паказвалася на патрэбу для Беларусаў доступу да Балтыцкага мора, а для Летувісаў вялізарнага заплечча і, 3) на супольную абарону перад моцнымі суседзямі.

На другой канфэрэнцыі Беларусы атрымалі ад Летувісаў адмоўны адказ дзеля наступных прычынаў: 1) летувіская справа была ўжо справай міжнароднай, а беларуская толькі "ўнутранай расейскай" і таму ня было сэнсу зьвязваць летувіскую справу зь беларускай і 2) справа ўзнаўленьня Вялікага Княства Літоўскага для летувіскай палітыкі станавілася неактуальнай.

Атрымаўшы гэткі катэгарычны адмоўны адказ, Беларусы пакінулі канфэрэнцыю і летувіская арыентацыя сярод Беларусаў замерла (5).

**********************************************

## СЫМОН РАК-МІХАЙЛОЎСКІ

(Заканчэньне з бачыны 3-й)

Беларусамі. Яны расказвалі яму, што ў Менску ў ГПУ прасядзелі каля году ў падвалах. Підгайны піша так: "Няшчасныя й жалюгодныя прыбылі на Салаўкі — гэтыя валадары, што сталіся найпаслухмянейшымі рабамі. З усіх іх найлепш выглядаў і быў найбольш бадзёрым Рак-Міхайлоўскі. Я ня ведаю ні ягонае мінуўшчыны ні дзейнасьці ў Савецкай Беларусі. Магу толькі пацьвердзіць адно, што гэты чалавек запраўды зусім шчыра й бяз жалю казаў: "Так нам і трэба" — да такое ступені ён асуджае наіўную сьлепату, што пайшлі на згубныя бальшавіцкія прынады".

Як выглядае, там на Салаўках, далёка ад сваей бацькаўшчыны Беларусі, і закончыў трагічна ў 1937 годзе сваё жыцьцё гэты выдатны дзеяч беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, аўтар падручнікаў для школаў, працаў зь беларускае мовы, фальклярыст і паэт, праўдападобны аўтар музыкі песьні "Зорка Вэнэра" Максіма Багдановіча, жыцьцё, якое, як адзначае Аляксандра Бэргман: "адлюстроўвае этап у гісторыі беларускага народу, асабліва ў міжваенны пэрыяд, жыцьцё чалавека, які моцна ўпісаўся ў гісторыю".

*Язэп Барэйка*

Абвешчаньне 11. XI 1918 году незалежнасьці Польшчы зь ейнымі тэрытарыяльнымі прэтэнзіямі адносна Беларусі й Летувы й асабліва спор паміж Летувай і Польшчай за Сувальшчыну, Вільню й Віленшчыну, змушае Летуву шукаць хаўрусьнікаў. Летувісы зьвяртаюць большую ўвагу на Беларусаў, супрацоўніцтва зь якімі яны адкінулі год раней. Ад гэтага часу й пачынаецца эпізод беларуска-летувіскага збліжэньня й супрацоўніцтва, пра які мы гаварылі ў пачатку гэтага артыкулу Летува дае цяпер прыпынак беларускаму антыпольскаму ўраду Вацлава Ластоўскага, стварае Міністэрства для беларускіх справаў, дае субсыдыі на выдавецтва беларускіх кніжак і, як мы ўжо адзначылі, дазваляе фармаваць беларускія вайсковыя адзьдзелы пры летувіскай арміі. Праўда, эпізод гэты трываў нядоўга. Не атрымаўшы Вільні й Віленшчыны, Летува ліквідуе беларускае міністэрства й беларускія вайсковыя фармацыі, спыняе грашовую дапамогу на выдавецтва беларускага друку і, урэшце, беларускі ўрад Ластоўскага пакідае Летуву. Але гэта ўжо выходзіць за рамкі нашага артыкулу. Адно толькі пэўнае: летувіская палітыка адносна Беларусаў ніколі ня ставіла беларускай праблемы ў цэлай шырыні й глыбіні; была блізарукая й неразумная.

Баючыся беларускай стыхіі, якая навет і сяньня, у час жорсткай русыфікацыі Беларусі, адсоўвае летувіскую этнаграфічную мяжу што раз больш на захад (6), з аднаго боку, і ведаючы, што іхныя цьверджаньні аб гістарычнай культурнай і палітычнай перавазе над Беларусамі ёсьць ілюзорныя й беспадстаўныя, з другога, Летувісы заўсёды стаялі на вузкай плятформе, а менавіта на грунце адбудовы Летувы за кошт беларускіх земляў: па Нарач і Нёман, а навет і далей на ўсход і паўднёвы-захад.

Але вернемся да пытаньня беларускіх вайсковых фармацыяў пры летувіскай арміі ў першых гадох існаваньня незалежнае Летувы.

Вынікам лістападаўскае (1918г.) рэвалюцыі ў Нямеччыне было тое, што бальшавікі ўжо 7.12.1918 г. займаюць Менск. Менскі рэўком выдае загад пра роспуск і арышт Рады БНР. Гэта можна было прадбачыць і таму Рада своечасова выяжджае ў Летуву, да якой Немцы, кіруючыся вылучна сваімі інтарэсамі, далучылі былі Беласток і Горадню аж да паралелі, што праходзіць празь Берасьце (г. зв. 'Litauen-Bezirk Sud') (7).

Адначасна, 1-га сьнежня 1918 г. у Горадні адбываецца 1-шы зьезд Гарадзеншчыны, які катэгарычна адкінуўшы ўсялякія прэтэнзіі Палякаў на Гарадзеншчыну, пастанаўляе далучыць на аўтаномных асновах усю Гарадзеншчыну (у межах 1914 г.) да Летувіскае рэспублікі (8). Ажыцьцяўленьне свае пастановы Зьезд усклаў на выбраны ім выканаўчы ворган — Гарадзенскую Беларускую Ўправу.

У Вільні-ж, якая ў той час знаходзілася ў руках Летувісаў, пачынаецца фармаваньне першых беларускіх вайсковых адзьдзелаў. Загадам Міністэрства Абароны Летувы №4 ад 1.XII. 1918 г.,(9) начальнікам беларускай сэкцыі гэтага Міністэрства вызначаецца капт. Рамішэўскі. Справаводамі — пар. Жэмля і прапаршчык Шэпф. Запаснымі афіцэрамі пры Міністэрстве залічаюцца пар. М.Дзямідаў і прапар. Прушакевіч. Такім чынам ствараецца першае ядро беларускай вайсковай арганізацыі ў летувіскай арміі.

Неўзабаве пачынае арганізавацца й 1-шы Беларускі Пяхотны Полк (1 БПП). 10.XII. 1918 г. быў апублікаваны загад Міністэрства №5, якім назначаецца камандзерам 1 БПП палк. Лаўрэнцьеў, камандзерамі батальёнаў - палк. Леніваў і падпалк. Усьпенскі; камандзерамі ротаў — капт. Гайдукевіч, паручнікі Пятко, Жываткевіч і Талькоўскі; ад'ютантам — Рэйнгард, справаводам — Ляўандоўскі. Дзевяць дзён пазьней Леніваў і Рэйнгард былі звольненыя з 1 БПП. 24.12. 1918 г. загадам № 7 у Беларускі Полк былі прызначаныя афіцэры Сяткоўскі, Канапацкі, Якубоўскі, Рамішэўскі й Лукашэвіч Адначасна фармуецца таксама й штаб 2-га Беларускага Пяхотнага Палка (10).

1-га студзеня 1919 году часовы летувіскі ўрад, створаны ў Вільні 11.11.1918 г., вымушаны быў пакінуць горад і выехаць у Коўна. Праз пяць дзён былая сталіца Вялікага Княства Літоўскага была захопленая бальшавікамі, якія яшчэ 8.12.1918 г. у Дзьвінску стварылі летувіскі ўрад, што праз восем дзён выдаў маніфэст пра ўтварэньне Летувіскай ССР (11). (Беларуская ССР была абвешчаная ў Смаленску 1.1.1919 г.).

Разам зь летувіскім урадам пакідае Вільню й беларускі нацыянальны актыў. Пасьля адыходу зь Вільні, далейшая праца над арганізацыяй беларускіх вайсковых адзьдзелаў адбываецца ўжо ў Горадні й іншых цэнтрах, дзе інтэнсыўна працуюць беларускія дзеячы.

*ЗНОСКІ:*

1. Існуюць разыходжаньні адносна дакладнай даты падпісаньня пагадненьня. Я. Найдзюк ("Беларусь учора й сяньня", Менск, 1944, б. 175) адзначае, што "На аснове дагавору паміж Віленскай Беларускай Радай і Прэзыдыюмам Летувіскай Рады з 15,20,21,23,26 і 27 лістапада 1918 г. пры Летувіскім урадзе паўстала Міністэрства Беларускіх Спраў". В. Панупэвіч ("Гарадзеншчына ў нацыянальным руху ў 1918-1919 гадох") "Бацькаўшчына", № 617-618, 1964, бб. 5-6, які базуецца на працы Найдзюка, піша: "..на падставе ўмовы Ўправы Гарадзенскай і Віленскай Беларускай Рады зь Лятувіскай Тарыбай, 30 лістапада 1918 году й далейшых перамоваў Рады БНР з Тарыбай між 25-27 лістападам, наступіла падпісаньне ўмовы наступнага зьместу...". N. Vakar ( Belorussia. The Making of a Nation, Cambridge, Mass., 1956, б. 107), падае дату 20.11 (3.12) 1918 году. І. Антонаў ("Успаміны аб польскай акупацыі Гарадзеншчыны ў 1919-1921 гг., 1921, б.7) падае 20.11. 1918 г. як дату дасягненьня ўмовы. Ян Шутовіч ("Учасьце Беларусаў у барацьбе за свабоду й незалежнасьць Літвы", "Крыніца", №14 (723) з 20.11.1940), з свайго боку- абмяжоўваецца да агульнага сьцьверджаньня, што "Фармаваньне беларускіх частак літоўскага войска адбывалася на аснове ўмовы беларусаў і ліцьвіноў з 1918 году".

2. В. Гадлеўскі, "Беларускае літвафільства", "Беларускі Фронт", № 7 (29), 1938 (паводля "Беларуская Царква", Чыкаго, № 28, 1965, б. 154).

*(Працяг на бачыне 6-й)*

## *КОШТ САВЕЦКАЕ ІМПЭРЫІ*

Выраз "савецкая імпэрыя" ня ўжываецца ў Савецкім Саюзе, а даўно ўжо прыняты ў заходніх краінах. Што-ж такое "савецкая імпэрыя"? Як яе можна акрэсьліць? Вось што гаворыць пра гэта Мілаван Джылас — у мінулым адзін з кіраўнікоў Югаславіі, а пазьней прынцыповы крытык камунізму: "Савецкі камунізм — гэта ваенная імпэрыя. Калі такія імпэрыі ўнутры загніваюць, яны імкнуцца знайсьці выхад у вонкавай экспансіі. Калі экспансію спыніць, працэс загніваньня паскараецца". Калі Джылас мае слушнасьць і экспансія дапамагае паслабіць нутраны ціск, дык значэньне вонкавае экспансіі для савецкіх кіраўнікоў павінна быць вялізарным. Якую цану плаціць Савецкі Саюз за ўтрыманьне й пашырэньне сваей імпэрыі? Як гэтыя выдаткі зьмяніліся з часам? І як доўга савецкая эканіміка зможа выносіць нагрузкі, выкліканыя няспынным пашырэньнем імпэрыі? Навуковая праца, праведзеная нядаўна групай амэрыканскіх вучоных дасьледніцкай арганізацыі "Рэнд корпорэйшан" шукае адказу на гэтыя пытаньні.

Сыстэматычнае вывучэньне кошту савецкай імпэрыі пачалося параўнальна нядаўна. Прычынай было войстрае павялічэньне савецкай экспансіі за апошнія гады, асабліва агрэсія савецкіх войскаў у Афганістане. Падлікі, зробленыя дасьледнікамі Рэнда — першая спроба дэтальна вылічыць поўную вялічыню выдаткаў на ўтрыманьне й пашырэньне савецкай імпэрыі. Падлікі ахопліваюць дзесяцігодзьдзе ад 1971 да 1980 г. Сумарныя выдаткі на імпэрыю ў 1971 годзе складалі дзевяць міліярдаў рублёў. Першы пэрыяд войстрага росту прыпаў на 1973—74 гады, на працягу якіх выдаткі вырасьлі да 20 міліярдаў рублёў. У пэрыяд 1975—78 гадоў яны заставаліся на гэтым узроўні, але ў 1979—80 гадох зноў войстра падняліся і дасягнулі ў 1980 г. 42 міліярдаў. Адзначым, для параўнаньня, што 42 міліярды — гэта фонд заработнай платы ўсіх рабочых і служачых у 1980 г. у 15—х найбуйнейшых гарадох Савецкага Саюзу, улучаючы Маскву й Ленінград.

Чым выкліканае гэткае скачкападобнае павялічэньне савецкіх імпэрскіх выдаткаў? У сярэдзіне 70-х гадоў значна павялічылася савецкая экспансія ў Афрыцы і ў раёне Чырвонага мора. Менавіта ў гэтыя гады да савецкай імпэрыі былі далучаныя Паўдзённы Емэн, Ангола і Этыёпія. Гэта імпэрская актыўнасьць адбілася ў падваеньні выдаткаў.

У канцы 70-х гадоў значна ўзрасла савецкая экспансія ў Цантральнай Амэрыцы, што зноў выклікала войстрае павялічэньне выдаткаў. Рост іх у гэты час тлумачыцца і іншай прычынай. У гэны пэрыяд моцна запаволіўся эканамічны рост у краінах Усходняй Эўропы, асабліва ў Чэхаславаччыне й Польшчы, фактычна рост упаў да нуля. Гэта пагражала дэстабілізацыяй Усходняй Эўропы і савецкім кіраўнікам давялося значна павялічыць субсыдыі сваім старым калёніям.

Аналіз выдаткаў на савецкую імпэрыю паводля катэгорыяў сьветчыць, што галоўным артыкулам зьяўляюцца гандлёвыя субсыдыі — як экспартныя, так і імпартныя. Пры экспарце Савецкі Саюз прадае тавары сваім сатэлітам таньней, чымся на сусьветным рынку. Гэта перш за ўсё адносіцца да нафтапрадуктаў і збожжа. Але калі нафтапрадукты Савецкі Саюз пастаўляе з уласных рэсурсаў, дык збожжа сам купляе на сусьветным рынку, за якое плаціць валютай. Пры імпарце тавараў із сваіх калёніяў Савецкі Саюз плаціць за гэныя тавары даражэй, чымся на сусьветным рынку. Яскравым прыкладам ёсьць цукар з Кубы ды машыны і абсталяваньне з краінаў Усх. Эўропы. Паводля разьлікаў эканамістаў Рэнда, Савецкі Саюз пры імпарце пераплачвае ў паўтара-два разы, а пры экспарце выручае ў паўтара-два разы менш.

Зразумела, савецкія кіраўнікі пагаджаюцца цярпець такія страты дзясяткаў міліярдаў рублёў не таму, што яны хочуць дапамагаць так званым "братнім" краінам. Там, дзе ўдаецца, яны выціскаюць з гэтых "братніх" краінаў усё, што можна, як гэта прыкладам было ў 40-я і 50-я гады з закупамі польскага вугалю, паводля цэнаў значна ніжэйшых чымся на сусьветным рынку. Савецкія кіраўнікі змушаныя цярпець страты таму, што краіны, якія пад ціскам Савецкага Саюзу будуюць эканоміку на аснове цэнтралізаванага плянаваньня, апынуліся ня ўстане вырашыць свае эканамічныя праблемы і, перш за ўсё, забясьпечыць насельніцтва харчаваньнем і таварамі першай неабходнасьці. Паўстаньне ў Вугоршчыне ў 1956 г., неаднаразовыя хваляваньні ў Польшчы, падзеі ў Чэхаславаччыне ў 1968 годзе паказалі савецкім кіраўнікам, што заганы сацыялістычнай сыстэмы ў гэтых краінах неабходна кампэнсаваць з дапамогай датацыяў, інакш не пазьбегнуць новых узрусаў.

У дасьледаваньні карпарацыі Рэнд прыводзіцца вялічыня субсыдыяў для краінаў Усх. Эўропы й Кубы. Лічбы пададзеныя ў далярах. Агульная сума экспартных і імпартных субсыдыяў для краінай Усх. Эўропы ад 1971 да 1980 г. складала 80 міліярдаў рублёў. У 1980 г. субсыдыі на аднаго жыхара ў гэтай частцы са-

## БЕЛАРУСКІЯ ВАЙСКОВЫЯ ФАРМАЦЫ

*(Працяг з бачыны 5-й)*

3. Тамсама.

4. Тамсама.

5. Тамсама.

6. Т. Судник. Предварительные материалы к характеристике фонологических систем польских говоров Белоруссии й Литвы", 'Польские говоры в БССР', ч. 2, 1973.

7 Wł. Wielhorski, 'Polska a Litwa, stosunki wzajemne w biegu dziejów', Londyn, 1947, str. 268.

8. І. Антонаў, op. cit., б. 6.

9. "Крыніца", № 4(701) з 28.11. 1939, б. 3.

10. Тамсама.

11. Язэп Менскі, "Чаму ды як была ўтвораная Беларуска ССР", 'Беларускі Зборнік', Мюнхэн, 1955, кн. 1, б. 25.

*(Заканчэньне будзе)*

вецкай імпэрыі склалі ў сярэднім 250 рублёў. Максымальныя субсыдыі прыпалі на Усх. Нямеччыну (520 руб. у год на чалавека) і Баўгарыю (480 руб.). Найбольшую помач, такім чынам, Масква давала або краінам з найбольшым стратэгічным значэньнем (Усх.Нямеччына), або асабліва ляяльным да Масквы (як Баўгарыя). Субсыдыі Польшчы ў 1980 г. складалі 130 руб., а Румыніі – толькі 12 руб. на жыхара. Непаслухмяныя краіны "старшы брат" карае. Куба – фарпост савецкай імпэрыі ў заходняй паўкулі, атрымала ў 1980 г. 670 руб. на жыхара, больш чым у якой іншай савецкай калёніі.

Гандлёвыя субсыдыі – адно палова выдаткаў на савецкую імпэрыю. Каб атрымаць поўную вялічыню выдаткаў на жыхара ў падкантрольных краінах, даныя вышэй лічбы трэба ўдвоіць. Такім чынам выдаткі на аднаго жыхара Усх. Нямеччыны ў 1980 г. абыйшліся Савецкаму Саюзу ў 1040 руб., а Кубы – 1340 руб. Сумарныя выдаткі на Кубу склалі ў 1980 г. восем мільёнаў рублёў у дзень.

Другі паводля вялічыні артыкул выдаткаў – "ваенная помач". У 1971 – 1980- гадох гандлёвыя субсыдыі краінам савецкай імпэрыі каштавалі 100 міліярдаў руб., а "ваенная дапамога" – 54 міліярды. У гэтую апошнюю уключаныя навет дзіцячыя цацкі, якія пры выбуху адрываюць рукі афганскім дзецям. Гандлёвымі субсыдыямі захоўваюць імпэрыю, а "ваеннай дапамогай" яе як мага пашыраюць.

З павялічэньнем савецкай экспансіі за апошнія гады, гэты артыкул імпэрскага бюджэту расьце асабліва хутка. На ваенныя апэрацыі ў Афганістане выдаецца ад трох да пяці міліярдаў рублёў на год.

На пачатку 20-га ст. Ленін стварыў партыю "адмысловага тыпу". Яна захапіла ўладу ў Расеі. Спадкаемцы Леніна стварылі імпэрыю "адмысловага тыпу". Яна асаблівая тым, што, – у адрознасьць ад усіх імпэрыяў мінулага, – яна ня толькі не дае прыбыткаў, але, наадварот, прыносіць мэтраполіі вялізарныя страты.

*лм*

**************************************************

*НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ:* Нордблём Ч. "Прамысловы шпіянаж", Стакгольм, 1984

У канцы мінулага году на кніжным рынку Швэцыі зьявілася новая кніга п.заг. "Прамысловы шпіянаж". Аўтар кнігі – швэцкі журналіст і былы сябра кампартыі Швэцыі Чарлі Нордблём сабраў вялікую дакумантацыю пра савецкую шпіёнскую дзейнасьць у гэтай скандынаўскай краіне за час, што мінуў ад пачатку Другой сусьветнай вайны.

Выступаючы на прэс-канфэрэнцыі з нагоды выхаду ў сьвет сваей кнігі, Нордблём, які, дарэчы, больш за дзесяць гадоў быў сябрам камуністычнай партыі пракітайскай арыентацыі, паведаміў журналістам што ягоная кніга аснаваная на дакладным аналізе больш чым 200 інтэрвю, якія ён правёў з гэтай мэтай з прадстаўнікамі прамысловасьці, абароны, палітыкі й сродкаў месавай інфармацыі Швэцыі.

Паводля Чарлі Нордблёма, ад часу Другой сусьветнай вайны прынамся 280 савецкіх шпіёнаў, супрацоўнікаў КДБ і ГРУ, праводзілі сваю дзейнасьць на тэрыторыі Швэцыі ў органах абароны, палітыкі й прамысловасьці краіны. Пры гэтым прынамся палова ўсёй савецкай шпіёнскай дзейнасьці ў Швэцыі канцэнтруецца на выкраданьні дадзеных пра кампютарную й электронную прамысловасьці, бо з пункту гледжаньня Савецкага Саюзу Швэцыя ёсьць адной з краінаў, якая мае найноўшую тэхналёгію й перадавую зброю.

У сьпісе 280 пералічаных Нордблёмам прозьвішчаў савецкіх шпіёнаў згадваюцца і два савецкія консульскія дараднікі – Уладзімер Батыкіраў і Юры Кісялёў – якія, на думку аўтара, проста зьяўляюцца адпаведна кіраўнікамі КДБ і ГРУ.

Паводля Нордблёма, у Швэцыі дзеіць асобная група савецкіх агентаў, дзейнасьць якіх канцэнтруецца выключна вакол швэцкага прэм'ер-міністра Олафа Пальмэ і ягонага непасрэднага асяродзьдзя, бо, як піша швэцкі аўтар, Савецкі Саюз лічыць Пальмэ адным з найбольш уплывовых палітыкаў Заходняй Эўропы. Нордблём тлумачыць гэта роляй Пальмэ ў міжнародным рабочым руху, ягоным лідарствам у руху за раззбраеньне, а таксама ягонай кіраўнічай роляй у адной з найбольш прагрэсыўных прамысловых краінаў сьвету. Гэта й тлумачыць спробы савецкага кіраўніцтва пранікнуць у колы палітычных дараднікаў Пальмэ, каб здабыць інфармацыі пра палітычныя мэты швэцкага прэм'ера.

Нордблём піша, што ў адрозьненьне ад іншых краінаў, якія праводзяць прамысловы шпіянаж, Савецкі Саюз вярбуе на шпіёнскую дзейнасьць Швэдаў. Цяпер Масква мае ў Швэцыі ад 25 да 30 сталых агентаў і каля ста інфармантаў – швэцкіх грамадзян.

Паводля швэцкага аўтара, савецкае пасольства ў Стакгольме – гэта цэнтар савецкай разьведвальнай службы. Апроч таго, такімі цэнтрамі ёсьць і савецкія прэсавыя й турыстычныя бюро ў Швэцыі, а таксама консуляты ў Стакгольме й Гётэборгу. У сучасны момант, на думку Нордблёма, у Швэцыі працуе 60 агентаў КДБ і 20 агентаў ГРУ.

Камэнтуючы кнігу Нордблёма, і ўхіляючыся ад непасрэднага запярэчаньня ці пацьверджаньня пададзеных у ёй лічбаў, прадстаўнік швэцкай разьведкі сказаў, што кніга "падсумоўвае абставіны, зь якімі мы павінны справіцца". Прысутны на прэс-канфэрэнцыі адзін швэцкі экспэрт у справах Савецкага Саюзу падкрэсьліў, што пададзеныя ў кнізе Нордблёма факты ня новыя, а ўжо ад некаторага часу ў Швэцыі вядомыя.

*лц*

**************************************************

*ЦІ АПЛАЦІЎ ТЫ ПАДПІСКУ,*

*ЦІ ЗЛАЖЫЎ АХВЯРУ НА "ЗВАЖАЙ"?*

## ЯЗЭП МАЦКЕВІЧ

31-га студзеня, 1985 г. у Мюнхэне памёр выдатны польскі пісьменьнік, гісторык, журналіст, філёзаф Язэп Мацкевіч. Было яму 83 гады.

У маей бібліятэцы, на кнізе 'Droga Pani', — супольнага аўтарства Язэпа Мацкевіча і ягонай жонкі Барбары Тапорскай, ёсьць дэдыкацыя:

***'Kostusiu Akule – Litwinowi narodowości białoruskiej od Litwinów narodowości polskiej.***

***Józef Mackiewicz, Barbara Toporska(Mackiewiczycha) 1984'.***

Карэньне Язэпа Мацкевіча на Віленшчыне. Ён надзвычайна добра ведаў ня толькі свой "літоўскі" народ, але лічыў памылкай, што Вялікае Княства Літоўскае, на фэдэрацыйных асновах з Польшчай і Украінай, ня было адноўленае пасьля Першай сусьветнай вайны.

Некалі на польска-нямецка-амэрыканскай канфэрэнцыі Мацкевіч прадставіўся так: "прафэсія: пісьменьнік, нацыянальнасьць: антыкамуніст, пераканаьньні: контррэвалюцыянер, край паходжаньня: Усходняя Эўропа".

На працягу ўсяго ўзрослага жыцьця бескампрамісны змагар супраць камунізму, перакладаны на шматлікія мовы, ведамы на эмігацыі й на бацькаўшчыне, Мацкевіч зусім слушна ўважаў, што камунізм, наўсуперак цьверджаньняў заходніх чэмбэрленаў, ня ёсьць здатны да эвалюцыі й павінен быць зьнішчаны зброяй. Пісьменьнік-гуманіст не цярпеў ня толькі чужых, але й сваіх, польскіх фанатыкаў. Дый ці толькі фанатыкаў і шавіністаў. У польскім літаратурным эстаблішмэнт (гавару ўмоўна) ня было яму месца паміма таго, што некаторыя крытыкі ставілі яго побач такіх майстроў пяра, як Дастаеўскі, Горкі й Пастэрнак.

Мацкевіч і Барбара Тапорская ціраз баранілі й права Беларусаў на сваё самастойнае жыцьцё. Адносіліся да нас вельмі прыхільна, хоць некаторыя падзеі ці людзі з нашага мінулага не пазьбеглі іроніі пісьменьніка ( гл. *"Ня трэба голасна гаварыць"*)

У свой час, прачытаўшы Мацкевічаву кнігу п. заг. "Перамога правакацыі", мне давялося напісаць артыкул ( гл. **'The Plague', 'Speak Up', Toronto, June-July, 1978**). Кніга цікавая тым, што ў ёй пісьменьнік, на прыкладзе савецкай Беларусі й Польшчы разглядае і аналізуе працэс, пры помачы якога маскоўская "пошасьць" нэўтралізуе, паралізуе, разьядае і зьнішчае нацыянальны арганізм.

У пэрспэктыве супольнага змаганьня супраць "пошасьці" камунізму, Мацкевіч бачыў перашкоды і з боку нацыяналізмаў. Ён хіліўся навет да таго, каб паняволеныя народы аб'яднаіся пад адным сьцягам змаганьня, без ранейшага прызнаньня расейскімі адзінанедзялімаўцамі права паняволеным народам на свае незалежныя дзяржавы. Перш пераможам агульную пошасьць камунізму, а пасьля падзелімся.

Мацкевіч быў сьветкам, калі Немцы раскопвалі масавыя магілы памардаваных бальшавікамі палонных афіцэраў польскай арміі ў Катыні. На аснове таго напісаў шырокаведамую кнігу "Злачын Катыні ў сьвятле дакумантаў".

Мы, Беларусы, ўдзячныя Язэпу Мацкевічу, які, нарадзіўшыся ў Літве (гістарычнай, а не Жамойдзі), шанаваў адданых Богу, працы й праўдзе ды любячых сваё роднае "пушчанскіх весьнякаў" і што пісьменьнік (як і ягоная жонка — выдатная журналістка й пісьменьніца Барбара Тапорская) ставіў наш беларускі, пакрыўджаны народ побач зь іншымі й бараніў ягоных правоў да вольнага жыцьця.

Памяць Язэпа Мацкевіча будзе жыць між нас, "Літвінаў беларускай нацыянальнасьці", а ўдаве Нябожчыка Барбары — наша глыбокае спачуваньне.

*К. Акула*

*************************************************

## *ПАМЁР ВЭТЭРАН*

Першага травеня сёлета адыйшоў у вечнасьць, на 87-м годзе жыцьця, ЯНКА НАУМЧЫК, удзельнік Слуцкага змаганьня БНР у 1920-м годзе. Падчас Другой сусьветнай вайны служыў у беларускіх вайсковых адзьдзелах у Беларусі, а на чужыне быў сябрам Беларускага Вызвольнага Фронту, Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў і належаў да парафіі Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры.

Янка пакінуў у жалобе жонку Палагею, двух сыноў — Сьцяпана й Юрку, сястру ў Польшчы, шэсьць унукаў і аднаго праўнука. Пахаваны на беларускім могільніку ў Саўт Рывэры.

Дык сьпі, Сябра Вэтэран-, і няхай Табе сьняцца палескія нівы.

ЗБАВ у Амэрыцы.

Сьв. Пам. Ц. Салановіч

Сёлета ў пачатку травеня, на 65-м годзе жыцьця, памёр у Тароньце Цімох Салановіч. Паходзіў з Гомельшчыны. Зьявіўся ў Канадзе ў 1948-м годзе й адразу далучыўся да групы ініцыятараў арганізаванага беларускага жыцьця. Браў удзел у жыцьці ЗБК, выдаваньні "Беларускага Эміграната". Апошнімі часамі ўдзелу ў грамадзкім жыцьці ня браў і ніякіх сваякоў тут не пакінуў..

................................................

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Ад 16.2 да 25.5 сёлета атрымана на 'Зважай':
М. Пракопчык — 10,00 даляраў, М.Буцько — 10,00, Янка і Івонка Сурвілы — 35,00, В. Акавіты, — 4,50, Г.Шэйпак — 5,00, М. Скабей — 8,00, Д.Дзядовіч — 6,60, Г.Шэйпак (ад Беларусаў Мэльбурну) — 18,00, М. Скабей — 8,00, М. Раецкі — 3,00.

Усяго 108 дал. 10 ц. Усім шчыра дзякуем